# БАЦЬКАЎШЧЫНА



ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.

**ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ**

**DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)**

**Herausgeber: Wladimir BORTNIK**

**Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.**

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана: Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія**: 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл; **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка летніцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

**Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.**

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 47 (582) — Нядзеля 10-га сьнежня 1961 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 15


# Брутальныя акты Масквы

На першы пагляд можна было-б сказаць, што за апошнія тыдні ў міжнароднай палітыцы нічога новага ня дзеецца. Быццам-бы — зацішша. Хрушчоў заняўся хаосам цалінная гаспадаркі і ня трывожыў заходіх кіраўнікоў сваімі пагрозьлівымі лістамі ды зваротамі. Ядзерныя выпрабаваньні ў Савецкім Саюзе спыніліся, і заходнія пацыфістыя і аптымістыя ўсьцешыліся — тымбольш, што савецкі ўрад выказаў пажаданьне ўзнавіць жэнэўскія перамовы аб спыненьні ядзерных выпрабаваньняў — перамовы, якія трывалі трыццаць чатыры месяцы й якія сарваў савецкі ўрад, пачынаючы сваю апошнюю сэрыю выпрабаваньняў.

Аднак у гэтым, быццам-бы, зацішшы савецкія дыпляматы праводзілі жывую дзейнасьць і — як ні сумна — мелі немалыя посьпехі. Тут прыгадаем толькі тры факты: справа Фінляндыі, жэнэўская нарада і кангалеская праблема.

Фінскі прэзыдэнт Кэконэн, вярнуўшыся з свае «Каносы» — Новасібірску, рабіў спробы супакоіць грамадзтва Фінляндыі й Скандынаўскіх краінаў, што быццам-бы ў Новасібірску нічога пагрозьлівага ня здарылася. Аднак, бачна, Кэконэн крыху больш расказаў свайму ўраду і ўрадам Скандынавіі, доказам чаго зьяўляюцца паважныя зьмены. Зрэшты, пэўныя дэталі з сумных перамоваў у Новасібірску прасачыліся ў прэсу. Ужо самое падарожжа прэзыдэнта сувэрэннай дзяржавы ў далёкі сібірскі горад было паніжаючым. Вызначаючы Кэконэну сустрэчу ў Новасібірску, Хрушчоў ужо выявіў сваю брутальнасьць. Ня менш брутальным быў Хрушчоў і падчас гутарак з сваім госьцем. Ён бясцырымонна ўмешваўся ўва ўнутраныя справы Фінляндыі і навет ставіў дамаганьні адносна пэрсанальнага складу кіраўніцтва дзяржавы. Аб гэтым, пэўна, публічна не гаворыцца, аднак ніхто ня сумляваецца, што вынікам пагрозаў Хрушчова была адмова Гонка ад кандыдатуры на становішча прэзыдэнта Фінляндыі, хоць ён меў вялікія шансы быць выбраным. Цяпер старшыня фінскага парляманту Фагэргольм зрабіў прапанову ўсім партыям канстытуцыйна прадоўжыць кадэнцыю прэзыдэнта Кэконэна. Гэта проста, каб супакоіць маскоўскага мядзьведзя. Слушна зазначыла швэдзкая прэса, што Фінляндыя мае быць маскоўскай зброяй супраць Скандынавіі і заходніх дзяржаваў, чаго і трэба было Хрушчову.

Як мы казалі, сёлета савецкі ўрад сарваў жэнэўскія перамовы аб атамных выпрабаваньнях і пачаў вялікую сэрыю гэтых выпрабаваньняў, уключна з наймагутнейшай бомбай. Але скончыўшы гэтую сэрыю, савецкі ўрад выказаў ахвоту ўзнавіць гэтыя жэнэўскія «пабалачкі». Зразумела, што Захад пайшоў насустрач гэтым «гуманным» пажаданьням савецкага ўраду. Жэнэўскія перамовы адносна спыненьня ядзерных выпрабаваньняў ўзнавіліся. І тут заходнія дзяржавы наткнуліся на прыкрае рашчараваньне. Савецкі дэлегат Царапкін адразу заявіў, што ён ня толькі ня мае намеру йсьці на нейкія далейшыя кампрамісы, але й адклікае ўсе дамоўленасьці, якія былі дасягнутыя маруднай працай падчас амаль трохгадовых перамоваў.

Гэта быў яшчэ адзін брутальны акт Масквы, які яшчэ раз даказаў сьвету, што маскоўскія верхаводы згодныя на перамовы толькі на іхных умовах, а перамовамі з кампрамісамі зусім не зацікаўленыя. Заходнія прадстаўнікі сказалі Царапкіну, што выяжджаюць з Жэнэвы на неакрэсьлены тэрмін...

Заходнія прадстаўнікі мелі слушнасьць, але некаторыя заходнія газэты, не гаворачы пра камуністычныя, зганілі гэты крок. Гэтыя газэты цьвердзяць, што з савецкай дэлегацыяй ўсё-ж трэба дамаўляцца, калі савецкія згаджаюцца гаварыць. Аб чым гаварыць, як доўга можна пераліваць з пустога ў парожняе — газэты канкрэтна не гавораць, бо і самі ня ведаюць, што сказаць...

Апошнія дэбаты ў Радзе Бясьпекі АЗН, адносна кангалескай праблемы таксама ня ўзбуджаюць радасных рэфлексыяў. Савецкі дэлегат аж тры разы выкарыстаў права вэта супраць амэрыканскіх папраvак да рэзалюцыі, каб Генэральны Сакратар АЗН меў права ўжыцьця вайсковай сілы ня толькі супраць Катангі, але і супраць іншых правінцыяў, дзе выяўляюцца непарадкі, як напрыклад супраць камуністычнага Гізэнгі.

У выніку савецкай інтэнсыўнай акцыі Рада Бясьпекі прыняла пастанову толькі супраць Катангі. Калі-ж Генэральны Сакратар АЗН У Тант зазначыў, што ён уважае больш мэтазгодным прытрымоўвацца папярэдніх пастановаў у справе Конга, гэта значыць у першую чаргу рэагаваць там, дзе пагражае найбольшая небясьпека, савецкі дэлегат войстра выступіў у абароне Гізэнгі. Зорын нахабна перасьцерагаў У Танта, што ён узыходзіць на небясьпечны шлях і пагрозьліва прыгадаў У Танту сумны лёс ягонага папярэдніка — Дага Гамэршэльда.

Брутальнасьць маскоўскага дыплямата тут пераступіла ўсе межы дыпляматычнай прызваітасьці...

І вось цяпер ствараецца запраўды парадаксальнае палажэньне: войска АЗН, якая ўтрымоўваецца коштам заходніх дзяржаваў (бо краіны камуністычнага блёку «байкатуюць» гэтую арганізацыю і ўжо гадамі ня плацяць складак) будзе змагацца супраць Катангі — адзінай шчыра прыхільнай да Захаду правінцыі Конга. Карацей кажучы, войска АЗН за амэрыканскія грошы будзе дзеіць на карысьць Масквы...

Ці-ж гэта не парадоксы?

Усё гэта было-б сьмешным, калі-б ня было сумным...

**пс**

# Другі Інтэрнацыянальны Кангрэс
## на тэму палітычнай вайны Саветаў

У мінулым годзе «Бацькаўшчына» дакладна інфармавала аб праведзеным у Парыжы першым Інтэрнацыянальным Кангрэсе на тэму палітычнай вайны Саветаў. Сёлета ад 18 да 22 лістапада ў Рыме адбыўся другі Кангрэс на гэтую-ж тэму.

Як і летась, сёлетні Кангрэс ставіў сабе ў васноўным за мэту вывучэньне савецкіх мэтадаў вядзеньня халоднай вайны й выпрацаваньне мэтадаў супрацьдзеяньня ім. Арганізатарам сёлетняга Кангрэсу была Італьянская Ліга Свабоды, у якую ўваходзяць выдатныя палітычныя, грамадзкія і культурныя дзеячы Італіі. На Кангрэсе былі прысутныя прадстаўнікі 51 краіны Эўропы, Паўночнай і Паўдзённай Амэрыкі і Азіі, — палітыкі, парлямантары, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў, пісьменьнікі, журналістыя. Шырака былі прадстаўленыя таксама паняволеныя камуністымі краіны Эўропы і Азіі антыкамуністычнымі сіламі на эміграцыі — таксама й паняволеныя народы ў межах СССР. Ад Беларусаў у Кангрэсе брала ўдзел 5 асобаў, у іхным ліку і Прэзыдэнт Рады БНР Мікола Абрамчык.

На працягу 4 дзён працы Кангрэсу было прачытана каля 30 дакладаў, у якіх былі падрабязна прааналізаваныя ўсе аспэкты камуністычнай дзейнасьці ў некамуністычных краінах — камуністычная прапаганда, інфільтрацыя камуністых у дзяржаўныя і прыватныя ўстановы й арганізацыі вольнага сьвету, акты камуністычнага сабатажу, правакацыі бунтаў — аж да забойства паасобных людзей. Шмат часу на Кангрэсе было прысьвечана дыскусіям.

Ува ўсіх выступленьнях дэлегатаў Кангрэсу галоўны націск клаўся на неабходнасьць каардынацыі высілкаў вольных краінаў з мэтай супрацьдзеяньня палітычнаму наступу камуністых. Прамоўцы былі згодныя ў тым, што ў свабодным спаборніцтве ідэяў камуністыя заўсёды прайгралі-б, бо ідэалы запраўднай свабоды і дэмакратыі зьяўляюцца вечнай, непераходнай прыцягальнай сілай для ўсіх людзей і народаў; што прыцягальная сіла ідэалаў свабоды асабліва моцная там, дзе свабода здушаная.

Шмат было сказана таксама аб тым, што дасюль камуністыя пры дапамозе шырока разгорнутага і добра зарганізаванага фронту халоднай вайны здолелі атрымаць шэраг перамогаў над Захадам без адкрытых ваенных дзеяньняў, а таксама аб тым, што Захад не ўсьведамляў сабе важнасьці адпаведнай ідэялягічна-палітычнай контратакі і нічога або амаль нічога не рабіў у кірунку арганізацыі органаў і сяродкаў супрацьдзеяньня. Таму, неабходнасьць безадкладнага стварэньня такіх органаў, якія стала й сыстэматычна праводзілі-б працу ў галіне палітычнай вайны з камунізмам падкрэсьлівалася ўсімі ўдзельнікамі Кангрэсу. Падкрэсьлівалася таксама і тое, што дзейнасьць фронту палітычнай вайны не павінна абмяжоўвацца толькі абароннымі мерапрыемствамі, а павінны мець унівэрсальны характар, гэта значыць яна павінна пашырацца таксама й на краіны камуністычнага блёку. Шмат прадстаўнікоў вольных краінаў энэргічна выступалі за права нерасейскіх народаў СССР на сваю дзяржаўную незалежнасьць.

Дарэчы, аб усім гэтым гаварылася й на першай, Парыскай канфэрэнцыі. Былі тады прынятыя й адпаведныя рэзалюцыі. Аднак, ня гледзячы на ўсю пераканальнасьць падаваных фактаў і доказаў, за год часу нічога канкрэтнага створана ня было. Таму аўтару гэтых радкоў, а як выявілася з прыватных гутарак і выступленьняў на Кангрэсе — бальшыні ўдзельнікам здавалася, што гэтым разам Кангрэс зоймецца больш канкрэтнымі справамі, а менш паўтараньнем агульнаведамых фактаў пра камуністычную пагрозу. Арганізатары-ж Кангрэсу былі, відаць, іншай думкі. Якой — мы дакладна ня ведаем. Але канцэнтрацыя высілкаў і гэтага Кангрэсу на шырокім раскрыцьці пагрозы камуністычнай інфільтрацыі дае падставы прыпушчаць, што ініцыятары творчага фронту ўсё-ж яшчэ ня зусім пэўныя ў шырэйшай падтрымцы іхных пачынаў у першую чаргу з боку ўрадаў некамуністычных краінаў, якія ў сваіх дачыненьнях да камуністычнага блёку далей прытрымліваюцца звычайна старых, хоць і памылковых, мэтадаў.

Таму, не бяз пэўнай дозы незадаваленьня паведамляем нашым чытачом, што, як і папярэднім разам, сёлетні Кангрэс закончыўся таксама толькі прыняцьцем шэрагу рэзалюцыяў адносна тых мэтаў, якія павінны легчы ў васнову творанага фронту палітычнай вайны і адносна некаторых практычных мерапрыемстваў на будучыню. Кангрэс на месцы не стварыў ніякага органу, якому было-б даручана праводжаньне вызначаных у рэзалюцыях мерапрыемстваў і ад якога на наступным Кангрэсе можна было-б дамагацца інфармацыі аб праведзенай працы.

Арганізатары Кангрэсу, наўсуперак выказваньням дэлегатаў, выявілі такса-


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


# Незайздросныя пэрспэктывы сельскай гаспадаркі ў Беларусі

Паводля праграмы камуністычнай партыі Савецкага Саюзу ўжо сучаснае пакаленьне савецкага грамадзтва будзе жыць пры камунізьме. Пабудову камунізму прадбачыцца ажыцьцявіць на працягу дваццаці гадоў. За гэты час, паводля тэй-жа, будзе створана «матарыяльна-тэхнічная база камунізму ўва ўсіх галінах народнай гаспадаркі Савецкага Саюзу.

Дзеля дасягненьня пастаўленай мэты, камуністычная партыя разьлічвае, поруч зь існуючай «магутнай прамысловасьцю», стварыць квітнеючую сельскую гаспадарку. Ужо ў першым дзесяцігодзьдзі будаўніцтва камунізму высокапрадукцыйная сельская гаспадарка павінна забясьпечыць усё насельніцтва краіны багатым асартымэнтам высокаякасных прадуктаў харчаваньня, а прамысловасьць — дастатковай колькасьцю сыравіны.

Для пасьпяховага будаўніцтва ў галіне сельскай гаспадаркі **партыя** бярэ на сябе абавязак арганізаваць у калгасах і саўгасах высокі ўздым вытворчасьці Дэкляруецца, што сельская гаспадарка будзе забясьпечана сучаснай тэхнікай, штучнымі ўгнаеньнямі, хімікатамі і падрыхтаванымі кваліфікаванымі кадрамі.

У выніку ўсіх гэтых мерапрыемстваў, як адзначана ў новай праграме партыі, усе калгасы, у тым ліку і самыя закінутыя і захудалыя, ператворацца ў эканамічна моцныя і прыбытковыя гаспадаркі. Аднак «цудоўнае ператварэньне» эканамічна слабых калгасаў будзе праводзіцца на зусім іншых падставах, чымся гэта было дасюль. Цяпер савецкая дзяржава ня будзе ператвараць захудалыя калгасы ў саўгасы. На гэта патрабуецца шмат сродкаў. Эканамічна слабыя калгасы за кароткі тэрмін павінны **адданай працай** падняць прадукцыйнасьць у грамадзкай гаспадарцы. Камуністычная партыя абяцае гэтым калгасам дапамагчы арганізацыйнымі мерапрыемствамі.

Паводля новай праграмы, калгасны лад і надалей зьяўляецца праверанай дарогай, якая прывядзе калгаснае сялянства да камунізму. У будучыні, маўляў, эканамічны росквіт калгаснай сыстэмы створыць спрыяльныя ўмовы для аб'еднаньня каапэрацыйна-грамадзкай уласнасьці ў вадну камуністычную ўласнасьць.

У сыстэме сельскай гаспадаркі на час будаўніцтва камунізму саўгасам вызначаецца асабліва важная роля. Саўгасы, як вядучыя сацыялістычныя прадпрыемствы, павінны будуць паказаць калгасам спосабы і мэтады прыкладнай працы ў грамадзкай гаспадарцы.

Паводля праграмы партыі, будаўніцтва камунізму ў сельскай гаспадарцы будзе ажыцьцяўляцца на працягу двух пэрыядаў. У першым дзесяцігодзьдзі (1961-1970) сельская гаспадарка павінна павялічыць прадукцыю ў два з паловай разы і ня толькі дагнаць, але і перагнаць Злучаныя Штаты Амэрыкі ў прадукцыі на душу насельніцтва.

У другім дзесяцігодзьдзі (1971-1980) адначасна з стварэньнем матарыяльна-тэхнічнай базы для «камуністычнага грамадзтва» і мае надыйсьці час дзеля ажыцьцяўленьня камуністычнага прынцыпу — разьмеркаваньня прадуктаў і іншых рэчаў паводля патрэбы.

Аб усіх гэтых фантастычных плянах будаўніцтва камунізму нядаўна выступіў з дакладам на сходзе партыйнага актыву ў Менску сакратар ЦК камуністычнай партыі Беларусі Мазураў. У сваім дакладзе Мазураў адзначыў, што XXII зьезд партыі паводля велічы абмеркаваньня пытаньняў да гэтага часу ня меў сабе роўных. Мазураў з падхалімствам адзначыў, што ўсе пляны пабудовы камунізму ў Савецкім Саюзе ўсебакова аргумэнтаваныя ў «глыбока навуковым дакладзе вернага ленінца М. С. Хрушчова».

У дакладзе Мазураў сказаў, што Беларусь адстае ў вытворчасьці збожжа, а гэта ў сваю чаргу выклікае адставаньне вытворчасьці мяса і малака. Каб выправіць палажэньне, Мазураў патрабуе павялічыць вытворчасьць збожжа ў калгасах і саўгасах больш чымся ў два разы да канца сямігодкі гэта значыць да 1965 году. Толькі пры выкананьні ягонай прапановы, Мазураў спадзяецца, што будуць задаволеныя ўсе патрэбы ў збожжы на Беларусі.

Мазураўскія патрабаваньні зьяўляюцца ня менш фантастычнымі, як і ўся новая праграма камуністычнай партыі.

Падамо вельмі простыя разьлікі. Паводля савецкіх зьвестак, калгасы й саўгасы Беларусі засявалі ў 1950 годзе збожжавымі культурамі тры мільёны 393 тысячы гэктараў. З гэтай плошчы было сабрана 2 мільёны 684 тысячы тонаў збожжа. Сярэдняя ўраджайнасьць за 1949-1953 гады складала 6,2 цэнтнары з гэктара. У 1960 годзе было засеяна пад збожжавымі культурамі 2 мільёны 662 тысячы гэктараў, або на 730 тысяч гэктараў менш, чымся дзесяць гадоў таму. Агульны збор збожжа складаў толькі 2 мільёны 312 тысяч тонаў, або 372 тысячы тонаў менш, чымся ў 1950 годзе. Ураджайнасьць за дзесяць гадоў ня толькі не павялічылася, а зьнізілася да 6 цэнтнэраў з гэктара.

У 1960 годзе на Беларусі налічвалася 8 мільёнаў 228 тысяч насельніцтва. Такім чынам, вытворчасьць збожжа на душу насельніцтва складае толькі 282 кіляграмы. З гэтай мізэрнай нормы трэба выдзеліць значную частку на адкорм і ўтрыманьне жывёлы. З агульных збораў збожжа выдзяляюцца таксама і насенныя фонды.

Апрача таго Мазураў паведаміў партыйнаму актыву, што вытворчасьць мяса ў калгасах і саўгасах у параўнаньні з мінулым годам зьменшылася на 11 пра-


**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**


### ДА ПАДПІШЧЫКАЎ І ПРАДСТАЎНІКОЎ «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»

**З прычыны таго, што за апошнія гады падвоіліся кошты друку й паперы й не павышалася ў сувязі з гэтым цана газэты, з новага 1962 году ўводзіцца наступная падпісная цана на газэту:**

| Краіны: | за год | за паўгода |
|---|---|---|
| Нямеччына й іншыя краіны Эўропы бяз Францыі й Ангельшчыны | 25 н. м. | 12,5 н. м. |
| Францыя | 25 н. ф. | 12,5 н. ф. |
| ЗША й Канада | 13 дал. | 6,5 дал. |
| Ангельшына й Аўстралія | 60 шыл. | 30 шыл. |

**Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, а ў Аўстралію й краіны Паўдзённай Амэрыкі — патройна. Для паўдзённаамэрыканскіх краінаў цана раўназначная зь Нямеччынай.**

**Адміністрацыя**

# Дэклярацыя амэрыканскай дэлегацыі ў АЗН

На дамаганьне савецкага ўраду, на парадак дня апошняй асамблеі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў было пастаўлена зноў пытаньне аб ліквідацыі каляніялізму. У вольным сьвеце усім зразумела, што пытаньне гэтае савецкі ўрад ставіць у першую чаргу дзеля таго, каб адцягнуць увагу сусьветнай грамадзкай думкі ад найбольш актуальнага пытаньня — савецкага каляніялізму. У сувязі з гэтым, дэлегацыя Злучаных Штатаў у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў зьвярнула ўвагу на гэтае пытаньне ўсіх дэлегацыяў АЗН у адмысловым мэмарандуме. Вось зьмест галоўных пунктаў гэтага мэмарандуму.

На пачатку свайго мэмарандуму дэлегацыя Злучаных Штатаў сьцьвярджае, што камуністыя зусім сьведама намагаюцца падарваць усе высілкі Задзіночаных Нацыяў ў кірунку ліквідацыі праблемы каляніялізму на Захадзе. Прычынай гэтага зьяўляецца той факт, што пасьля разьвязаньня гэтай праблемы ўся ўвага АЗН была-б няўхільна ськіраваная на палажэньне ў камуністычным сьвеце, у якім Савецкі Саюз зьяўляецца найбольшай каляніяльнай імпэрыяй, якую дасюль ведала гісторыя.

Далей у мэмарандуме дэлегацыі Злучаных Штатаў пры АЗН даюцца адказы на такія пытаньні: чаму Савецкі Саюз на працягу апошніх двух гадоў намагаўся адабраць ініцыятыву ў каляніяльнай праблеме ад афрыканска-азіяцкіх дзяржаваў? Чаму ён прабаваў унесьці ў гэтую праблему элемэнты халоднай вайны і нязгоду? Чаму савецкі ўрад хацеў адцягнуць увагу АЗН ад рэалістычнага разьвязаньня каляніяльнага пытаньня? Адказ просты: усё гэта таму, што ўрад Савецкага Саюзу баіцца, што ў выпадку пасьпяховага разьвязаньня рэштак каляніяльнага пытаньня на Захадзе, АЗН сканцэнтруе сваю ўвагу на імпэрыю, якая завецца Савецкім Саюзам.

Далей у амэрыканскім мэмарандуме гаворыцца, што калі ў Афрыцы і ў Азіі на працягу апошніх гадоў узьнікае адна сувэрэнная нацыя за другой, дык зусім супрацьлежны працэс адбываецца ў засягу дзеяньня Савецкага Саюзу. Незалежныя краіны — шмат зь якіх тыя, якія нядаўна вызваліліся ад панаваньня нацыстых, былі зноў акупаваныя камуністычнай мяншынёй пры дапамозе збройнай сілы Савецкага Саюзу. Аднак, амэрыканскі мэмарандум ў справе савецкага каляніялізму ня спыняецца толькі на гэтым факце. Ён прыгадвае аб збройным паняволеньні Савецкай Расеяй народаў былой Расейскай царскай імпэрыі, якія абвесьцілі свае незалежныя дэмакратычныя дзяржавы. У гэтым мэмарандуме прыгадваецца таксама аб жахлівых дэпартацыях цэлых нацыянальнасьцяў, аб чым гаварыў у свой час і сам Хрушчоў у сакрэтнай прамове на XX зьезьдзе КПСС. Ахвярамі гэтай экспансіі Савецкага Саюзу, — гаворыцца ў амэрыканскім мэмарандуме, — сталіся народы, якія любяць свабоду гэтак-жа, як народы Афрыкі, Азіі і Амэрыкі, і яны павінны мець такія-ж правы, як народы прыгаданых кантынэнтаў. Савецкі Саюз праглынуў цэлы шэраг дзяржаваў і народаў, парушаючы ўмовы і не даючы народам права свабодна пастанаўляць аб сваім лёсе. Гэта тычыцца і народаў цяперашняга Савецкага Саюзу.

На тэрыторыі СССР савецкая ўлада ніколі не давала апанаваным ёй народам права на самавызначэньне. У мэмарандуме дэлегацыі ЗША прыгадваюцца словы Сталіна, які казаў: калі гэтае права супярэчыць інтарэсам работніцкай клясы — замацаваць сваю ўладу — дык права на самавызначэньне ня можа стаяць на перашкодзе ў змаганьні гэтай клясы за ейную дыктатуру. Інакш кажучы, камуністыя прызнаюць права на самавызначэньне толькі на тых тэрыторыях, якія не знаходзяцца пад панаваньнем камуністых.

Мэта савецкай улады, — гаворыцца далей у амэрыканскім мэмарандуме, перададзеным усім дэлегацыям АЗН, — не дапамагаць народам, якія знаходзяцца пад іхным панаваньнем, здабыць незалежнасьць, а наадварот — нішчыць усё, што спрыяе захаваньню іхнай нацыянальнай самабытнасьці. Гэта пацьверджваюць словы Хрушчова на XXII зьезьдзе КПСС: «Нават найменшыя праявы нацыяналізму трэба вынішчаць з бескампраміснай рашучасьцяй бальшавіка». Гэтая рыса адрозьнівае савецкі каляніялізм ад усіх іншых гістарычных прыкладаў здушваньня свабоды. Савецкая ўлада намагаецца ня толькі здушваць свабоду, але і зьнішчаць усякае жаданьне і імкненьне да свабоды.

У мэмарандуме амэрыканскай дэлегацыі пры АЗН далей гаворыцца: «Народы сьвету дзеля ўласнага дабра ня могуць забыцца наступных фактаў: папершае — кітайска-савецкі блёк — гэта найбольшая каляніяльная імпэрыя, якая існавала на працягу ўсяе гісторыі людзтва; падругое — гэта адзіная імпэрыя ў сучасныя часы, якая не жадае ліквідавацца, а наадварот — намагаецца пашыраць свае ўплывы ўва ўсіх кірунках; патрэйцяе — савецкая каляніяльная сыстэма — гэта найбольш жорсткая сыстэма на працягу ўсяе гісторыі; гэта сыстэма, якая плянуе зьнішчыць нацыянальную індывідуальнасьць народаў ізаляваць іх ад вонкавага сьвету; пачацьвертае — савецкая імпэрыя — гэта адзіная з імпэрыяў апошняга часу, у якой ніводзін з паняволеных народаў ніколі не атрымаў права пастанаўляць аб сваёй долі»

Мэмарандум дэлегацыі ЗША пры АЗН канчаецца словамі прэзыдэнта Кэнэды, якія ён сказаў на форуме АЗН 25-га верасьня: «абмяркуйма цалкам праблему каляніялізму і застасуйма прынцып свабоднага выбару ды правядзем свабоднае волявыяўленьне ў кожным кутку зямной кулі».

# Другі Інтэрнацыянальны Кангрэс...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

**Другі інтэрнацыянальны кангрэс на тэму палітычнай вайны Саветаў**

ма вялікую асьцярожнасьць у падыходзе да пастаноўкі пытаньня аб палітычнай будучыні паняволеных камунізмам народаў. Запрапанаваная імі рэзалюцыя абмяжоўвалася «правам усіх народаў на самавызначэньне». Гэта выразна не задавальняла прадстаўнікоў паняволеных народаў. Як ведама, «права на самавызначэньне «гарантуе» і савецкая канстытуцыя... Дыскусія на гэтую тэму кампліквалася яшчэ тым, што дэлегатам ня былі разасланыя загадзя тэксты рэзалюцыяў. Некаторыя з прадстаўнікоў паняволеных народаў Усходняй Эўропы (АБН) запрапанавалі ўнесьці ў рэзалюцыю папраўку з дамаганьнем ліквідацыі апошняй у сьвеце расейскай камуністычнай імпэрыі і аднаўленьня дзяржаўнай незалежнасьці нерасейскіх народаў Савецкага Саюзу. Калі старшыня Кангрэсу зыгнараваў папраўку, прыгаданая група пакінула залю паседжаньняў. Паўстала напружанае палажэньне. Арганізатары Кангрэсу пачалі шукаць кампрамісу. Выраз «права на самавызначэньне» быў заменены «вызваленьнем». Была запрапанаваная і прынятая яшчэ адна рэзалюцыя, у якой зьмяшчалася дамаганьне паставіць на разгляд Генэральнай Асамблеі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў пытаньне ліквідацыі савецкага каляніялізму і вызваленьня народаў савецкай імпэрыі.

Урэшце, на катэгарычнае дамаганьне прадстаўнікоў Лігі Вызваленьня народаў СССР (Парыскага Блёку) была пастаўленая на галасаваньне і прынятая запрапанаваная імі рэзалюцыя, у якой гаварылася, што народам у межах савецкай імпэрыі, якія мелі свае свабодныя і незалежныя дзяржавы і якія сталіся ахвярамі ваеннай агрэсіі Савецкай Расеі, павінна быць дадзеная падтрымка дзеля аднаўленьня іхнай незалежнасьці.

Зьмест гэтай апошняй рэзалюцыі мы падалі дакладна, хоць не даслоўна, бо пішучы гэты рэпартаж аўтар ня меў пад рукой ніводнага поўнага тэксту рэзалюцыі.

Цяпер важна, каб акцыя тварэньня фронту палітычнага змаганьня з камунізмам з фазы дыскусіяў перайшла урэшце да канкрэтных справаў.

**М. К.**

# Урачыстасьць з каляніяльным прысмакам

У БССР нядаўна праводзіліся ўрачыстасьці з нагоды 250-годзьдзя нараджэньня Ламаносава. У гэтай сувязі наладжваліся адпаведныя вечары, чыталіся лекцыі й рабіліся выстаўкі, у чым прынялі таксама актыўны ўдзел як «Рэспубліканскае таварыства па распаўсюджваньню палітычных і навуковых ведаў», так і Прэзыдыюм Акадэміі навук БССР. Гэтая дата, ведама, адзначалася па ўсім СССР, а навет, зь ініцыятывы так званага Сусьветнага Савету Міру — ў цэлым сьвеце.

Няма сумлеву, што асоба Ламаносава заслугоўвае на пашану, асабліва й перадусім самых Расейцаў, бо для іх ён быў запраўды вялікім чалавекам. З другога боку, Ламаносаў ня такая ўжо вялікая фігура сусьветнага значэньня, каб рабіць вакол яе столькі шуму. Аднак, паводля гэтага прапагандовага шуму, Ламаносаў раптам становіцца **сусьветнай славы** філёзафам, і хімікам, і эканамістым, і гісторыкам, і г. д., зь якім мала хто можа зраўнацца.

Аднак ня ў гэтым справа. Справа ў тым, што ўгодкі Ламаносава загадалі так сьвяткаваць у БССР і сьвяткаваць, як угодкі «нацыянальнага» героя. Даслоўна — як **нацыянальнага** героя.

Перад намі газэта «Літаратура і мастацтва» зь 17 лістапада, палавіна якой прысьвечана Ламаносаву. У перадавым артыкуле «Слава й гордасьць зямлі рускай» так і сказана: «Ламаносаў — бліскучая старонка нашага нацыянальнага летапісу». Думалася, што гэта мог быць перадрук з «Праўды», аднак дарма было шукаць пасьветчаньня гэтага. Перагартоўваем бачынку, і ў другім артыкуле «Вялікі сын вялікага народу» знаходзім падзагаловак: «Першы наш унівэрсытэт». У гэтым артыкуле Ламаносаў таксама ўважаецца «сынам» беларускага народу; ня ў тым сэньсе, што ён быў і запраўды сынам **беларускага народу**, а ў тым, што беларускі народ яго ўважае за свайго сына. Ламаносаў «змагаўся за паляпшэньне дабрабыту, здароўя й культуры расійскага народу», значыцца за дабрабыт, здароўе й культуру таго «адзінага народу» старой расейскай шавіністычнай канцэпцыі. Так выхвальваюць Ламаносава і ў іншых артыкулах. Выдзеліў Ламаносава, як Расейца, асобна ад Беларусаў і Ўкраінцаў, толькі ў сваім артыкуле «Ля вытокаў» пісьменьнік П. Ахрыменка. Між іншага у вапошнім артыкуле Ламаносаў уважаецца ўжо й не такім «арыгінальным», як ён уважаецца іншымі ягонымі одапісцамі на старонках «Літаратуры і мастацтва».

Апрача вышэй пададзенага, «Літаратура і мастацтва» апявае Ламаносава як змагара й вяшчуна «гістарычнай велічы рускага народу», як нацыянальнага героя, які жадаў бачыць «Расею» магутнай ува ўсіх дачыненьнях; як выдатнага эканамістага, што распрацаваў пляны «народна-гаспадарчага разьвіцьця Расеі», якія аднак зьдзейсьніліся толькі пры савецкай уладзе, і г. д. Адным словам, апяваецца ўсё, чаго жадаў Расеі Ламаносаў, навет і ягоныя оды расейскаму царскаму імпэрыялізму. Пры гэтым усё гэта ўважаецца «нацыянальным здабыткам» і беларускага народу.

Які можна зрабіць з усяго гэтага высьнаў? Папершае той, што Масква сілай пачынае насаджваць сваю канцэпцыю пра «нацыянальную супольнасьць» беларускага, расейскага й украінскага народаў. Нагода ўгодкаў Ламаносава й іншых да яго падобных выкарыстоўваецца як сяродак дзеля дасягненьня дадзенае мэты.

Як ведама, Беларусы маюць сваіх выдатных людзей дзеля адзначэньня іхнае дзейнасьці. Возьмем хоць-бы Францішка Скарыну, Васіля Цяпінскага, Кастуся Каліноўскага, якія запраўды змагаліся за прасьветніцтва, сацыяльныя рэформы й дабрабыт **беларускага** народу. Аднак іхная дзейнасьць, іхныя даты або зусім не адзначаюцца, а калі й так, дык у беспараўнальна меншых маштабах. І ўсё гэта каб не падкасіць «велічы рускага народу», каб не распальваць «штучнага нацыяналізму» ў васяродзьдзі «адзінага рускага народу»...

З другога боку, колькі было эканамістых ужо за часоў БССР, якія жадалі разьвіць народную гаспадарку Беларусі! Аднак яны або паплаціліся жыцьцём, або былі зьведзеныя да звычайных выканаўцаў каляніяльных дырэктываў Масквы. І гэтую нацыянальную трагедыю мусяць цяпер узьвялічаць Беларусы, захапляючыся эканамічным ростам свайго прыгнятальніка...

Падругое, гэтая нагода ўгодкаў Ламаносава раздзімаецца з мэтай наагул паказаць расейскую вышэйшасьць. Гэта — паўтарэньне канца 1940-пачатку 1950 гадоў, калі таксама з рукава высыпаліся «выдатныя Расейцы» — вынаходнікі і радыё, і самалётаў, і пораху, — наагул усяго, што стварыў людзкі розум у на-

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Незайздросныя пэрспэктывы...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

цэнтаў, а плян здачы жывёлы дзяржаве выкананы толькі на 81,6 працэнта. Толькі Менская вобласьць здала дзяржаве мяса на 1500 тон менш, чымся ў 1960 годзе.

Мазураў ў сваім дакладзе пералічыў шэраг раёнаў, якія мала дбаюць аб угнаеньні палёў, у выніку чаго зборы збожжавых культур у гэтым годзе не паўлічыліся ў параўнаньні з мінулымі гадамі, а ураджайнасьць кукурузы значна зьменшылася.

Новай праграмай камуністычнай партыі прадугледжана ўжо на працягу першага дзесяцігодзьдзя павысіць вытворчасьць працы ў калгасах і саўгасах ў два з паловай разы. Павышэньне вытворчасьці працы будзе ажыцьцяўляцца шляхам мэханізацыі ўсіх работ ня толькі на палёх, але і ў жывёлагадоўлі. Звычайна, нізкая вытворчасьць працы абумоўлена недастатковай колькасьцю высокаякасных машын.

У сельскай гаспадарцы БССР налічваецца цяпер 32 тысячы трактароў на агульную пасяўную плошчу 5,7 мільёнаў гэктараў. Такім чынам на адзін трактар прыпадае 173 гэктараў ворнай зямлі. Дарэчы у ЗША прыпадае на адзін трактар 28 гэктараў. Паводля забясьпечанасьці трактарамі, ЗША не зьяўляецца недасяжным выключэньнем. Ужо ў 1956 годзе ў Ангельшчыне і Заходняй Нямеччыне на адзін трактар прыпадала толькі 16 гэктараў ворнай зямлі.

Аб нізкай вытворчасьці працы ў СССР сьветчаць і такія зьвесткі: на вытворчасьць аднаго цэнтнара збожжа ў калгасах траціцца 7,3 гадзіны, а на фэрмах ЗША толькі адну гадзіну. На вытворчасьць цэнтнара бульбы у калгасах патрабуецца 5,1 гадзіны, а на амэрыканскіх фэрмах адну гадзіну. На прыбаўленьне ў вазе аднаго цэнтнара буйнай жывёлы калгасы трацяць 112 гадзін, а амэрыканскія фэрмы толькі 7,9 гадзіны.

Слабая забясьпечанасьць машынамі, а таксама недастатковае ўжываньне электраэнэргіі і існуючая ў калгасах сыстэма з прымусовай, безасабовай працай зьяўляюцца асноўнымі прычынамі нізкай прадукцыйнасьці ў сельскай гаспадарцы. Таму цьверджаньні Хрушчова і ягоных паплечнікаў аб «цудоўным» павышэньні сельска-гаспадарчае прадукцыі застаюцца й надалей пустою прапагандовай балбатнёю.

**В. Б.**

**П. Урбан**

# Масква на шляху да ліквідацыі гісторыі народаў СССР

**(Працяг)**

Гэтак-жа выкрыўляюцца ў «Сусьветнай гісторыі» і ўсе іншыя аспэкты гістарычнага разьвіцьця ня толькі беларускага й украінскага народаў, але й іншых падсавецкіх народаў. І гэта робіцца ня толькі дзеля таго, каб даказаць «гістарычнае адзінства» ўсіх падсавецкіх народаў, але, быццам-бы, «у суадпаведнасьці з законам» іхнага агульнага гістарычнага разьвіцьця. Аднак, як вынікае з «Сусьветнай гісторыі», гэтым «законам» было ўсё тое, што спрыяла палітычнай цэнтралізацыі й росту расейскай імпэрыі. У «Сусьветнай гісторыі апраўдваюцца і рэгабілітуюцца спалучаныя з гэтым усе мерапрыемствы і злачынствы ўсіх расейскіх вялікіх князёў і цароў, уключна з братазабойствамі, усемагчымымі каншахтамі з Татарамі, масавымі рэпрэсіямі і наагул іхнымі «самадзяржаўнымі» самадурствамі, з аднаго боку — і асуджаюцца найменшыя дэмакратычныя імкненьні ў асяродзьдзі свайго-ж расейскага народу, а таксама супраціў нерасейскіх народаў расейскім заваёвам, з другога.

На ідэялягічны зьмест і навуковую важнасьць творанай цяпер шматтомнай «Гісторыі СССР» кідаюць шмат сьвятла апублікаваныя ў сувязі з гэтым дырэктывы ў часапісе «Вопросы історіі». Мы маем на ўвазе артыкул «Аб асноўных праблемах айчыннай гісторыі» загадчыкаў сэктараў Інстытуту гісторыі АН СССР у галіне напісаньня шматтомнай «Гісторыі СССР» М. П. Кіма і А. В. Фадзеева, а таксама гэтак званы «дыскусыйны» артыкул «Да пытаньня аб стварэньні шматтомнай Гісторыі СССР» прафэсара Акадэміі грамадзкіх навук пры ЦК КПСС Ф. Д. Крэтава («Вопросы історіі», № 2, 1961.). У прыгаданых дырэктывах адзначаецца, што

> «Новая калектыўная праца ў галіне гісторыі СССР пакліканая падсумаваць вывучэньне айчыннай гісторыі й абагульніць дасьледваньні, праведзеныя ў гэтай галіне за ўвесь час існаваньня савецкай гістарычнай навукі... Прыйшоў час абагульніць сабраны матарыял, выбраць найбольш цікавыя і каштоўныя назіраньні, вызначыць галоўнае й асноўнае з тых дасягненьняў, якімі зусім законна могуць ганарыцца савецкія гісторыкі» (Вопросы історыі № 2, 1961.).

Агульны ідэялягічны кірунак шматтомніка «Гісторыя СССР» відаць з наступнай дырэктывы:

> «Працуючы над новай шматтомнай калектыўнай працай ў галіне гісторыі СССР, савецкія гісторыкі ўсьведамляюць сваю вялікую адказнасьць. Іхны абавязак — стварыць такія кнігі, якія будуць спрыяць гістарычнай адукацыі і камуністычнаму выхаваньню савецкіх людзей» («Вопросы історіі», № 2, 1961).

Значыцца, твораная шматтомная «Гісторыя СССР» мае быць зборам падабранага гістарычнага матарыялу, які павінен «спрыяць гістарычнай адукацыі й камуністычнаму выхаваньню» падсавецкіх народаў. Вышэй мы ўжо гаварылі, што азначае гэтая тэндэнцыя. Разгляданыя-ж апошнія дырэктывы зусім адкрыта ставяць кропку над «і». Зь іх відаць:

> «Новая шматтомная праца ў галіне гісторыі СССР павінна адлюстраваць галоўныя этапы гістарычнага разьвіцьця ўсіх народаў, якія засяляюць нашую шматнацыянальную Радзіму... Гістарычныя ўмовы дружбы народаў нашай краіны складаліся на працягу доўгага часу. У гэтым працэсе зьбліжэньня народаў асабліва вялікая роля расейскага народу як сілы, цэмэнтуючай іншыя народы. Абавязак савецкага гісторыка — зусім не затушоўваючы таго, што ў мінулым падзяляла народы, — перш за ўсё зьвяртаць увагу на тое, што зьбліжала іх у працэсе працы, у шматвяковым разьвіцьці культуры, у працэсе супольнага змаганьня супраць чужаземных захопнікаў і асабліва супраць агульных клясавых ворагаў» (тамсама).

Гэтыя цьверджаньні аб расейскім народзе як «цэмантуючай сіле» і дамаганьне перш за ўсё зьвяртаць увагу на працэс «зьбліжэньня» падсавецкіх народаў і павінны, такім чынам, акрэсьліць характар шматтомнай «Гісторыі СССР». Ейны характар павінен мець выразны расейскі кірунак, заснаваны на расейскай гісторыі й патрыятызьме. Гэта асабліва выразна відаць з дырэктываў прафэсара Акадэміі грамадзкіх навук пры ЦК КПСС Крэтава.

Прафэсар Крэтаў пачынае выклад партыйных тэзісаў з наступнага пункту гледжаньня:

> «Гісторыя СССР, — цьвердзіць ён, — гэта гісторыя ўсіх народаў нашай краіны; у ёй гісторыя расейскага народу ня можа быць адарванай ад гісторыі іншых народаў СССР, і, наадварот, гісторыя народаў СССР — ад гісторыі расейскага народу» («Вопросы історіі», № 2, 1961.

Аднак гэты прынцып яшчэ не азначае, што ў шматтомнай «Гісторыі СССР» будзе шанавацца прынцып аб'ектыўнага стаўленьня да гістарычнай мінуўшчыны ўсіх падсавецкіх народаў. Галоўную ўвагу савецкіх гісторыкаў павінна прыцягваць толькі гісторыя расейскага народу, у той час, як гісторыя нерасейскіх народаў будзе падлягаць працэсу нівэляцыі й прыстасаваньня да расейскага ўзору. Гэта, якраз, і мае на

